# Тыднёвік Магілёўскі

№ 10 (10)
30.05.97


РЭДАКТАРСКІЯ НАТАТКІ

## Усё яшчэ цяжкая для нас дылема

*Імкненне прэзідэнта і ягонага атачэння выставіць сябе падчас падпісання "мяккага" статута Саюза "Беларусь-Расія" як абаронцаў суверэнітэту краіны можа выклікаць у нармальных людзей толькі смех. Аднак цынізм і бессаромная хлусня перад усім светам абодвух "высоких договаривающихся сторон", што ўвесь час супраўаджаюць гэтую палітычную гульню, прымушаюць ставіцца да ўсяго "комплекса сближения" з непраходзячай трывогай за лёс Бацькаўшчыны. Пагрозу адкрытай анэксіі нашай краіны адвялі (пакуль няма ўпэўненасці, што назаўсёды) найперш патрыятычна-дэмакратычныя сілы ў самой Беларусі. Паспрыяла таксама адмоўнае стаўленне да саюзу на славянска-камуністычнай аснове з боку суб'ектаў Расійскай Федэрацыі і ўсіх краінаў Садружнасці. Шмат у гэтым напрамку зрабілі Народны Фронт, іншыя дэмакратычныя партыі, дэпутаты "закрытага" Вярхоўнага Савета, у сваіх кантактах з міжнароднымі дэмакратычнымі арганізацыямі і ўплывовымі ў Еўропе краінамі.*

*Але тэма "дружбы, единства и общности исторической судьбы" яшчэ не аднойчы будзе выкарыстоўвацца цяперашнім нашым рэжымам для падаўлення нацыянальнага Адраджэння, знішчэння дэмакратыі, прыкрыцця дыктатуры і адцягвання ўвагі ад сваёй відавочнай няздольнасці захаваць і напоўніць жыццём эканамічны патэнцыял краіны. Такія рэжымы, як зараз у нас, час ад часу могуць пад націскам аб'ектыўных абставін рабіць "два шага назад", але не здольныя арганічна змяніцца, бо ад пачатку заснавання існуюць на хлусні, карупцыі, цынізме, агрэсіўным непрыняцці нацыянальных каштоўнасцяў і здабыткаў цывілізаванага свету.*

*Можна, магчыма, і "чэсна" захацець стаць з бліжэйшага панядзелка сённяшнім Львом Сапегам, але гэта немажліва зрабіць па натуральнай адсутнасці ў кіраўнікоў рэжыму неабходных якасцей і хаця б неяк сфармуляванай канцэпцыі пабудовы нацыянальнага суверэннага дома. А імпульсіўныя паводзіны на гэтым шляху, якія мы ўжо бачылі і з якімі яшчэ сутыкнемся, прывядуць толькі да абвастрэння адносінаў паміж "аддanымі" паплечнікамі прэзідэнта і распальвання агрэсіўных настрояў у асяроддзі яго "вернага" электарату. Любоў іх да свайго правадыра можа абярнуцца зусім процілеглым пачуццём.*

*Рэжым, такім чынам, апынуўся, як бачым, у пастцы. Гэта рызыкоўна для яго, а значыць і для ўсіх нас. Кранаць яго зараз — небяспечна для сябе. Не кранаць — небяспечна для дзяцей і ўнукаў. Такая дылема для большасці з нас усё яшчэ найбольш цяжкая. Усё хацелася б "праскочыць", адкруціцца і дачакацца, пакуль праблема вырашыцца сама сабой.*

*Але так не бывае. Бо мы тут, на гэтым свеце, на сваёй зямлі, у гэты сапраўды гістарычны і лёсавызначальны час — і толькі ад нас залежыць ці пазбавімся прыніжаючай сітуацыі, якая існуе зараз, нягледзячы нібыта на "захаванне суверэнітэту". А менавіта: сітуацыі палітычнай і ваенна-тэрытарыяльнай падначаленасці беларускага рэжыму "старэйшаму брату" і ў выніку —каланіяльнай эканамічнай залежнасці нашай краіны ад сыравінна-энергетычных "подачек" з барскага стала ўсходняга суседа.*

*У нас, на шчасце, нямала людзей, якія дараваць такога не могуць. У нас, на бяду, нямала людзей, якія ставяцца да гэтага без разумення. Але жыццё і краіна ва ўсіх нас адзіныя. І выбару не абмінуць.*

Генадзь СУДНІК.

***Хутчэй за ўсё, што самі дзеці і не ведаюць пра штогадовы Міжнародны Дзень абароны дзяцей, які адзначаецца 1 чэрвеня. А дарослыя забыліся, што Дзень гэты быў устаноўлены ў 1949 годзе Міжнароднай дэмакратычнай федэрацыяй жанчын і адзначаецца ў шмат якіх краінах свету як дзень мабілізацыі сусветнай грамадскай думкі на абарону дзяцей ад пагрозы вайны, а таксама барацьбы за іх здароўе, правы і дэмакратычнае выхаванне...***

***Раней нам было прасцей — усе заганы жыцця, усе небяспекі пагражалі толькі дзецям за мяжой, "у праклятым капіталізме". А ў нас на ўсёй савецкай прасторы панавала "шчаслівае дзяцінства".***



***Цяпер цяжка схаваць праўду — ў нас, як і ў іншых краінах, нямала "дзіцячых" праблем. Чаго вартая толькі такая з іх, як чарнобыльская.***

***У Тыднёвіка няма рэцэптаў хутчэйшага і паспяховага вырашэння "дзіцячага пытання". Акрамя, зразумела, аднаго: неабходнасці пабудовы суверэннага беларускага дома. Гэта само па сабе станоўча адаб'ецца на многіх праблемах жыцця, якія сёння кінуты на капрызы лёсу.***

***Але, што тычыцца дзяцей, тут нельга марудзіць і чакаць ніводнага дня. Бо без іх не будзе ніякай, а не тое што Вольнай Беларусі... Азірніцеся, дарослыя: вакол вас, побач з вамі — дзеці, якім не заўсёды жывецца весела.***

## Што ў святочным календары на чарзе?

Што такое для магілёўцаў свята? Звычайна, у святочныя дні большасць нашых людзей не працуе, п'е гарэлку, ходзіць у госці, з'язджае на свае палеткі, ды ці мала яшчэ як распараджаецца вольным часам. Потым вяртаецца будзённасць: сямейныя клопаты, службовыя праблемы. Усё нармальна. Але ёсць у нас святы для ўсіх! Калі бярэцца за іх улада. Такое свята было ў нас днямі.

Гарадская ўлада распарадзілася прывезці танную калбасу, агуркі, яшчэ тоесёе з прадуктаў, "запусціла" на ўсю моц няведама якую музыку і дэкламацыю праз гукавую сістэму на цэнтральнай вуліцы (галоўнае, каб гучна раўло), панаставіла дзесятак "шашлычных" разам з моцнымі напоямі. Ну, і зразумела, што

свята горада, а гэта было яно, чырвоназялёнымі, а таксама проста чырвонымі сцягамі. Бо ніякія іншыя сапраўды не падыходзяць да "мерапрыемства", скроенага па методыцы савецкіх часоў і таму не маючага, нават і па "задуме", ніякага маральнага сэнсу.

Пра велізарныя сродкі, якія пайшлі на трохдзённае святкаванне і іх крыніцы, мы проста маўчым. Як маўчаць на гэты конт і ўлады. Хаця аб нечым можна і здагадацца: з панядзелка ўсе цэны сталі "на месца", а многія і падвысіліся.

У такое свята няма чаго рабіць дома, за сяброўскай гутаркай, у любімым куточку роднага горада. Такое свята правакуе ўсё кінуць і, як усе, "бегчы за камсамолам". Гэта вам не Дзяды, Дзень Волі, Радаўні-

ны адным — няхай людзі "проста" пагуляюць. Што натоўп, у які ператвараюцца людзі ў гэткія дні, і робіць.

Так мы, беларусы, і святкуем (з перапынкамі на войны, якія імперыя вяла на нашай зямлі) увесь той час, які жывём па сутнасці ў складзе Расіі —раней царскай, потым савецкай, цяпер капіталістычнаславянскай. І так мы, здаецца, згодныя жыць і святкаваць надалей, пакуль здароўе дазволіць.

...Але ж свята 730-х угодкаў горада патрабавала, на наш погляд, асобага зместу і адпаведнай праграмы. Гэтага не маглі замяніць ні канцэрт на стадыёне, у якім бралі ўдзел сталічныя эстраднікі, ні феерверк, ні шэсце духавых аркестраў, ні карнавальныя пары, самыя прывабныя з якіх былі апрануты ў форму афіцэраў расійскай дарэвалюцыйнай арміі. Пікантна выглядала іх прагулка па Савецкай плошчы каля мемарыялу "Барацьбітам за савецкую ўладу". Тут жа тры дзяўчыны ў нацыянальным адзенні гандлявалі з латкоў як

раз на фоне змены "каравулу" ля "вечнага агню" ў гонар, як цяпер ведама нам з гісторыі, а начальству было ведама заўсёды, барацьбітоў **супраць** усяго беларускага.

На вуліцы Вялікай Садовай (насамрэч Ленінскай) шпацыравалі, акрамя мэра і яшчэ нейкага начальства, пара-другая ў касцюмах пачатку стагоддзя; запрашалі пагуляць з імі і спявалі некалькі мастацкіх калектываў, сярод якіх зноў выдзяляўся, усё той жа пікантнасцю, хор "расійскіх вайскоўцаў" у адпаведнай вопратцы мінулых часінаў. Па-беларуску выступаў толькі ансамбль ля музея імя Бялыніцкага-Бірулі, але "ўраўнаважваў" ягоны спеў стара-новы савецкі сцяг, што звісаў з балкона музея. Гэта "горда" сведчыла, што вуліцы і надалей наканавана заставацца Ленінскай, а пабыць самой сабой дазволена толькі на дзень свята горада, у мінулым, вядома ж беларускага, але даўно ўжо расійска-савецкага.

Так будзе і надалей?

П.СТАНЧЫК.

# ...Дагэтуль ёсць надзея

*Магчыма, што Анатоль Фёдараў — самае знакамітае "дэмакратычнае" прозвішча ў Магілёве. Колішні выкладчык машынабудаўнічага інстытута, ён з галавой і сэрцам акунуўся ў палітыку дзесяць гадоў назад. За гэты час ён, да сваіх сарака з лішкам гадоў, многае згубіў і многае прыдбаў. Згубіў матэрыяльны дабрабыт і магчымасць калі-небудзь вярнуцца да "дзяржаўнай службы". Згубіў многіх сяброў, што не вытрымалі барацьбы... А прыдбаў толькі палітычнага вопыту і яшчэ большай упэўненасці ў сваім жыццёвым выбары.*

*Да нядаўняга часу ён узначальваў гарадскую і абласную арганізацыі БНФ. Цяпер у гарадскіх франтаўцаў новы лідэр, а А.Фёдараў кіруе абласной арганізацыяй (у многім, сумлення кажучы, фантомнай, бо ўлады ў раёнах паслядоўна і рашуча здушылі ўсялякія дэмакратычныя парасткі). З'яўляецца сябрам Сойму БНФ.*

*Як бы ні ставіліся да яго сёння мясцовыя дэмакраты самых розных плыняў — а чапаевек ён не для ўсіх зручны і спагадлівы — ўсе прызнаюць яго асабістыя высілкі ў тым, што ў Магілёве наогул яшчэ існуе дэмакратычнае асяроддзе.*

**— Сёння ўсё яшчэ можна пачуць, што БНФ — арганізацыя "оголтелых" нацыяналістаў. Чым, на вашую думку, сапраўды з'яўляецца Народны Фронт?**



— Гэта шырокі грамадска-палітычны рух, мэта якога — нацыянальнае Адраджэнне, правядзенне палітычных і эканамічных рэформаў, якія даўно ўжо патрэбны на Беларусі. Зараз, ва ўмовах нацыянальнай здрады з боку рэжыму, Фронт павінен вырашаць у асноўным палітычныя задачы, браць адказнасць за лёс краіны на сябе. Дзякуючы самаахвярнай барацьбе Народнага Фронту ў нас пакуль яшчэ ёсць Беларусь як дзяржава. Хаця сённяшняе кіраўніцтва пад дыктоўку расійскіх спецслужбаў паступова праводзіць курс на яе ліквідацыю.

**— На чым заснаваная ідэя Народнага Фронту?**

— Мы прытрымліваемся хрысціянска-дэмакратычнага накірунку. Галоўнае тут —адраджэнне сваёй культуры, нацыі, дзяржавы на падмурку свабоднага дэмакратычнага ладу грамадства.

**— Зыходзячы з гэтага, якія партыі ў іншых дзяржавах блізкія да БНФ?**

— Калі параўноўваць Фронт з палітычным спектрам Еўропы, яго можна аднесці да кансерватыўных партыяў, носьбітаў традыцыйных нацыянальных каштоўнасцяў. У Нямеччыне гэта, безумоўна, хрысціянска-дэмакратычны саюз (ХДС), у Вялікабрытаніі —кансерватыўная партыя, у краінах Балтыі — Народныя Франты. Таксама Народны Рух Украіны і польская "Салідарнасць". Дарэчы, менавіта "Салідарнасць" праводзіла нацыянальную дзяржаўную палітыку ў пераходны перыяд, таму і сталіся магчымымі ўсе тыя эканамічныя пераўтварэнні, што хутка далучылі Польшчу да цывілізаваных краінаў па ўсіх "параметрах" жыцця. І сёння ў ёй няма ніводнай палітычнай плыні, якая б выступала супраць уласнае дзяржаўнасці.

**— У нармальных краінах такое і немагчыма...**

— Канешне. Любы, хто ўзняў бы такое пытанне, адразу б апынуўся па-за законам. На жаль, Беларусь у гэтым сэнсе выглядае своеасаблівай "чорнай дзіркай".

**— Ці прыходзяць зараз да вас новыя людзі? Як наогул выглядае становішча з успрыманнем масамі вашых ідэй?**

— Так, у апошні час назіраецца пэўны прыток новых сяброў. Мы праводзім актыўную палітычную дзейнасць, кантактуем з большасцю партый. Цяпер ужо, на маю думку, трэба весці гаворку не проста пра пашырэнне шэрагаў Фронту, а пра пэўны рост нацыянальна-патрыятычных сілаў на Беларусі. Каб працаваць больш эфектыўна, не хапае, зразумела, доступу да "прыватызаваных" рэжымам СМІ, а таксама грашовых сродкаў.

**— А што, "заходныя спецслужбы" вам не плоцяць?**

— Ніякіх грошай адтуль мы ніколі не атрымлівалі і не чакалі. Вядома, што аб такой "дапамозе" нам ведаюць толькі тэлевізійныя брэхуны-лукашысты ды расійскія "абаронцы" Лукашэнкі.

**— Ці не разлічваеце на беларускую дыяспару за мяжой?**

— У матэрыяльным сэнсе нашая дыяспара даволі слабая і разлічваць на значную дапамогу не даводзіцца. На практыцы ўсе нашыя грашовыя сродкі — ад людзей у Беларусі, якія разумеюць неабходнасць незалежнай дзяржавы і падтрымліваюць БНФ.

**— Як вы ставіцеся да пазіцыі Захаду адносна сітуацыі ў Беларусі і ў Расіі? Ці разумеюць там небяспеку "новай імперыі" пад выглядам "дабраахвотнага Саюза"?**

— Яшчэ нядаўна Захад, здаецца, гатоў быў "ахвяраваць" Беларуссю, каб на гэтым спыніць расійскія "апетыты". Тым больш, што "саюзная" прапаганда падавала справу так, што, быццам бы, увесь народ жадае "аб'яднання". І менавіта пад кіраўніцтвам Народнага Фронту патрыятычныя сілы, распачаўшы барацьбу супраць анэксіі нашай краіны, паказалі ўсяму свету сапраўднае становішча. Вельмі важную ролю адыграла тут праца З.Пазьняка і С.Навумчыка на эміграцыі, і асабліва ў ЗША. Цяпер Амерыка і ЕС маюць падставы для разважанняў: а куды ідуць іх грошы, якімі яны дапамагаюць Расіі ў справе быццам бы правядзення рэформ? На самой справе гэтыя грошы, як дакладна акрэслена ў апошнім лісце З.Пазьняка, ідуць на падтрымку рэжыму Лукашэнкі. У свой час і Чачэнія ставіла пытанне аб тым, што заходнія крэдыты Крэмль выкарыстоўвае для вядзення вайны. Асноўная задача Фронту на сённяшні дзень — дабіцца ад міжнароднай супольнасці спынення фінансавай дапамогі Маскве, пакуль яна падтрымлівае дыктатарскі рэжым.

**— Дарэчы, аб крэдытах. Цікавая сітуацыя атрымліваецца: Лукашэнка і Кº клянуць "гэты праклятый Захад" і, між тым, не забываюцца клянчыць у таго ж Захаду грошы ў выглядзе крэдытаў і інвестыцый.**

— Нічога дзіўнага. Справа ў тым, што адсутнасць прынцыпаў і няшчырасць — сутнасць гэтага рэжыму і асабіста Лукашэнкі. Пры такім кіраўніцтве наш народ адчувае сябе разгубленым і няўпэўненым у будучыні.

**— Якая сацыяльная база нацыянальна-дэмакратычнага руху? Хто ў асноўным з'яўляецца сёння сябрам БНФ?**

— Гэта ўсе нацыянальныя і дэмакратычныя арганізацыі Беларусі, якія падзяляюць праграмныя палажэнні Фронту. Як асобныя грамадзяне, так і палітычныя партыі. Калі раней яны імкнуліся адасобіцца ад нас, крытыкавалі за "залішні нацыяналізм", дык цяпер іхныя пазіцыі практычна супадаюць з нашымі. У Фронце шмат інтэлігенцыі і моладзі, шырока прадстаўленыя рабочыя і прадпрымальнікі, у меншай ступені — сяляне.

**— Якія праблемы стаяць перад Фронтам у бліжэйшым часе?**

— Хутка збярэцца з'езд БНФ. На ім будзе прынятая праграмная Заява ў сувязі з тымі падзеямі, што адбываліся на працягу апошніх 2-3 год. Будуць удакладненыя мэты і задачы дзейнасці, каб яна была больш паспяховай і плённай. Ёсць, аднак, засцярога, што пэўныя сілы паспрабуюць справакаваць раскол у Фронце, каб потым наогул зліквідаваць яго. Але дыскусія, якая адбылася на апошнім Сойме, паказала, што сапраўдных падстаў для расколу няма. За той год, што З.Пазьняк правёў за мяжой, яго папулярнасць узрасла, а яго праца на карысць Беларусі шмат у чым дапамагла і Фронту. Так што будзем працаваць. Будзем змагацца. Мы не хаваем ні сваіх ідэй, ні сваіх намераў. Не хаваем і адрасу: вул. Ленінская, 27, кв. 50. Звяртайцеся таксама па тэл. 39-04-35.

*P.S. Што ж аб'ядноўвае людзей у Фронце? На мой погляд, калі ацэньваць не толькі іх палітычныя погляды, але чалавечыя якасці, тады агульная характарыстыка для членаў БНФ такая: гэта сумленныя людзі. Менавіта так. І не толькі таму, што быць у апазіцыі зараз, адкрыта выступаць супраць рэжыму — мужны грамадзянскі учынак. А яшчэ і таму, што ніхто ніколі не здолеў абвінаваціць кіраўніцтва Фронту ці шараговых яго сябраў ані ў карупцыі, ані ў злоўжываннях, ані ў якіх-бы там ні было "тёмных делах" наогул. Такіх выпадкаў не было, і гэта відавочны факт. Бо калі б яны былі, наш "великий борец с коррупцией" абавязкова ўзняў бы з гэтай нагоды неверагодны вэрхал. На жаль для яго, франтаўцам немажліва навязаць хаця б скрыню "скрадзеных цвікоў".*

*Нямногія з людзей ва ўладзе і набліжаных да яе могуць пахваліцца сваёй выключнай сумленнасцю. Ды і куды там, калі сам Лукашэнка патрапіў у непрыгожую гісторыю з кантрабандай праз ТОРГЭКСПО і фонд Махмуда Эсамбаева. А пакуль ёсць у краіне сумленныя, чыстыя людзі, —для ўсіх нас існуе надзея.*

**Гутарыў В.МАКАРАНКА.**

ЖЫЦЦЁ ПА ДЭКРЭТУ

## Розгалас Чарнобыльскага Шляху



ад 30.04.1997 № 10

ЗВАРОТ

*Як мы паведамлялі, суд Ленінскага раёна накіраваў на "даследванне" міліцэйскі зыск да актывістаў "Чарнобыльскага Шляху — 97", якіх органы аховы грамадскага парадку прапанавалі пакараць па дэкрэту N 5. Няма сумневу, што міліцыя ўсё "даследуе" і, у сваю чаргу, верне "справу" ў суд.*

*А тым часам няма ніякіх сведчанняў аб тым, як вядзецца органамі крымінальнага вышуку Кастрычніцкага раёна следства па заяве гарадской арганізацыі БНФ, якая таксама тычыцца "Чарнобыльскага Шляху". Знаёмім чытачоў з гэтай заявай.*

**Начальніку Кастрычніцкага РАУС г. Магілёва падпалкоўніку міліцыі Э.Ф.МАРОЗАВУ.**

26.04.1997 года дэмакратычная грамадскасць горада ўшанавала памяць ахвяраў Чарнобыльскай аварыі, 11-ыя ўгодкі якой адзначаліся ў гэтым годзе. Жыхары горада меліся ўсталяваць памятны крыж, як даніну павагі да самаахвярнасці ліквідатараў, сярод якіх было шмат супрацоўнікаў міліцыі, і як напамін аб пакутах, што выпалі беларускаму народу ў выніку аварыі на ЧАЭС.

Аднак было пасаджанае толькі дрэўца і пакінуты чорны валун побач месца, дзе меркавалася ўсталяваць той памятны крыж.

Невядомыя асобы скралі падрыхтаваны крыж, які быў пакінуты на захаванне на аўтастанцыі, што на скрыжаванні вуліцы Габраўскай і праспекта Шмідта.

У беларусаў, як і ў іншых народаў Еўропы, крыж заўсёды шанаваўся, а таму тое, што ўчынілі невядомыя асобы, нельга расцаніць інакш як здзек жудасны цынічнасці над нормамі агульначалавечай маралі, як брудны плявок у душы тых, хто самаахвярна працаваў на ліквідацыі аварыі і ейных наступстваў, хто разлічваў калі не на кампенсацыю здароўя, дык хаця б на павагу да сябе і сваёй працы.

Мы звяртаемся да Вас і ў Вашай асобе да ўсяго складу Кастрычніцкага РАУС з просьбаю дапамагчы вышукаць злодзеяў, каб пакараць іх згодна Закона.

Мы выказваем шчырую падзяку тым супрацоўнікам Вашага райаддзела, якія ажыццяўлялі ахову ўдзельнікаў жалобнага мерапрыемства 26.04.97 і просім заахвоціць іх паводле сваёй кампэтэнцыі.

**По даручэнню сходу старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэнне" Валадар Цурпанаў, г. Магілёў, вул. Ленінская, 27-50.**

## Пратэст амерыканскіх беларусаў

На мінулым тыдні на адной з плошчаў Нью-Ёрку, аб чым паведаміла радыёстанцыя "Свабода", адбыўся мітынг беларускай дыяспары ў Амерыцы, на які прыехалі таксама этнічныя беларусы з Канады і Еўропы. Мітынг быў накіраваны супраць расійскай палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі. Выступоўцы адзначалі небяспеку для нацыянальнага беларускага Адраджэння і незалежнасці краіны, якую тояць у сабе палітычныя гульні вакол магчымага аб'яднання дзвюх краінаў у адну. Акрамя таго развіццё падзей у гэтым напрамку з'яўляецца небяспечным і для еўрапейскіх суседзяў, бо самі "інтэгратары", асабліва Лукашэнка, не хаваюць мэты аб'яднання як акцыі процідзеяння дэмакратычным краінам, што ўступаюць у НАТО. Расія, за часы імпэрскага існавання, не аднойчы выстаўляла Беларусь у якасці плацдарму сваіх войнаў, што прыносіла беларускаму народу велізарныя страты і пакуты.

Мітынг, на якім выступіў і З.Пазьняк, прыняў асуджальную рэзалюцыю таксама на адрас урада ЗША за яго фінансавую падтрымку Расіі, якая яшчэ далёка не пазбавілася сваіх імпэрскіх амбіцый, аб чым сведчаць Чачэнія, Таджыкістан, Прыднястроўе, Абхазія, Беларусь. Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў ЗША разам з З.Пазьняком на гэтым тыдні будуць прынятыя адпаведным ведамствам ураду краіны, каб перадаць рэзалюцыю мітынгу і абмеркаваць прэтэнзіі да палітыкі ЗША ў адносінах фінансавай падтрымкі Расіі.

**Уласн. інф.**

*Заўтра ў Магілёве збіраецца абласная канферэнцыя грамадскага руху і палітычнай партыі Беларускага Народнага Фронту. Дэлегаты канферэнцыі абмяркуюць сітуацыю ў краіне, свае надзённыя пытанні, а таксама выберуць дэлегатаў чарговага з'езда БНФ, які склікаецца ў Менску ў чэрвені.*

*Аргкамітэт канферэнцыі запрашае журналістаў усіх выданняў і электронных сродкаў інфармацыі на прэс-канферэнцыю, якая арганізуецца для іх 31 траўня ў 14 гадзін у інстытуце "Магілёўграмадзянпраект".*

НАЧАЛЬНІКУ ЦЭНТРАЛЬНАГА РАУС
Г. МАГІЛЁВА П-КУ ЦЕРАХАВУ А.,
ПРАКУРОРУ ВОБЛАСЦІ

# Адкрыты ліст

Пан палкоўнік!

Мушу зьвяртацца да Вас вось гэтакім чынам, бо асабістыя нашыя размовы ня мелі плёну і нагадвалі дыялёгі глухога зь нямым.

Галоўным чыньнікам гэтага звароту ёсьць факт фабрыкацыі Вашымі, пан палкоўнік, падначаленымі справы "аб парушэньні дэкрэта N 5", якую "прышылі" мне 21-га сакавіка 1997 года.

Тое, што здарылася, лягічна вынікала з таго ланцугу бяззаконьня, які цягнуўся за Вамі асабіста й Вашымі падначаленымі ў дачыненьні мяне і маіх аднадумцаў. Тут я буду весьці гаворку аб тым, што тычылася мяне.

Гэта Вашыя "малодчыкі" ў цывільнай вопратцы 19-га ліпеня 1996 года схапілі мяне і валаклі па праезднай частцы, каб кінуць пад колы аўтамабіля. Адзін зь іх — капітан Кузьняцоў.

Гэта Вашыя омоновцы наладзілі 1-га траўня 1996 года паляваньне за мною й маімі сябрамі, а потым на Савецкай плошчы, выкручваючы рукі, "выносілі" мяне зь месца правядзеньня мітынгу ў дзень салідарнасьці працоўных.

Гэта ад Вашых падначаленых, якія імкнуліся разагнаць пікеты ў абарону Ю.Хадыкі, В.Сіўчыка, С.Адамовіча, я бараніўся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Гэта Вы асабіста камандавалі "зграяй" у паўтара дзесятка афіцэраў міліцыі, якой загадалі схапіць мяне 15-га лістапада 1996 года, калі я зьбіраў подпісы за вызваленьне Славаміра Адамовіча.

Гэта Ваш падначалены — л-т Ермачэнкаў, затрымліваючы мяне за тое, што я ратаваўся ад дажджу бел-чырвона-белай накідкай, прадставіўся л-там Башарымавым, што высьветлілася толькі ў судзе.

Гэта Вы асабіста праганялі мяне з пікета за тое, што я трымаў колісь дзяржаўны бел-чырвоны-белы сьцяг, а патрабуючы прайсьці ў РАЎС, нават не пажадалі патлумачыць законную на тое падставу.

Гэта Вашыя падначаленыя, старэйшы л-т Бушлякоў і л-т Сотнікаў, прыехалі на завод, дзе я працую, запрасіць мяне на гутарку з Вамі, а калі я не пажадаў мець з Вамі размову, яны спрабавалі зрабіць гэта гвалтам. Толькі салідарнасьць рабочых завода, якія кінуліся мяне бараніць, абурыўшыся назіраемым імі "вынасам майго цела", перашкодзіла таму — дзіўнай формы —запрашэньню.

Гэта Вашыя падначаленыя Бушлякоў і Сотнікаў хлусцілі ў судзе, што на завод прыязджаў толькі адзін Бушлякоў.

Гэта Ваш падначалены Бушлякоў дрыжачай рукой выпісваў мне позву на капоце машыны, на якой яны прыехалі на завод, дзе было пазначана ім, што мяне запрашаюць "...для беседы...", а ў судзе ён хлусіў, што прапаноўваў мне прыехаць у РАЎС дзеля высвятленьня абставінаў нібыта зьдзейсьненага мною адміністрацыйнага правапарушэньня.

Гэта Вашую пагрозу прыцягнуць мяне да адказнасьці за пражываньне не па месцы праліскі ажыцьцявіў Бушлякоў, склаўшы такі пратакол.

Лягічным працягам усіх гэтых парушэньняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, закона "Аб міліцыі" сталася фабрыкацыя справы аб парушэньні дэкрэта N 5.

21-га сакавіка 1997 года дзесьці а 22-й гадзіне я рухаўся да прыпынку грамадзкага транспарту (пасьля працы ў офісе БНФ) і быў спынены Вашымі падначаленымі, пан палкоўнік, дзеля праверкі дакументаў. Пасьля праверкі майго пашпарта ад мяне запатрабавалі прад'явіць зьмесьціва маёй валізкі (сумкі), а потым праехаць у РАУС.

У РАУС у мяне сканфіскавалі частку рэчаў (у ліку якіх была буталечка з клеем), якія пакінулі ў адным пакоі, а мяне адправілі ў другі.

Сьледчы Усьціновіч запісаў з маіх словаў тлумачэньне, якое тычылася абставінаў майго затрыманьня, пры гэтым ён спрабаваў падвесьці да таго, што мяне затрымалі з улёткаю, намазанаю клеем, у руках. Я мусіў заявіць яму, што мяне не зьдзівіць зьяўленьне нейкай улёткі, намазанай клеем, бо мае рэчы знаходзяцца ў іншым пакоі.

Потым быў складзены пратакол, у якім мне інкрымінавалася расклейваньне ўлётак з запрашэньнем на шэсьце 23-га сакавіка, а таксама пратакол вынятку, што склаў ст. л-т Аладзьеў, у якім першым пунктам пераліку сканфіскаваных рэчаў быў пазначаны: 1. Улётка з запрашэньнем на шэсьце...

Ня меней лягічным стаўся апошні Ваш крок. Знаходзячыся ў палоне ці свайго гіпертрафаванага ўяўленьня аб захаваньні парадку ў горадзе, ці то хваравітага рэагаваньня на маё зьяўленьне ў гарадскім цэнтры, Вы загадалі омоновцам схапіць нас 12-га травеня ля ЦУМа, нават не даўшы магчымасьці пачаць акцыю, якую мы ладзілі па збору подпісаў супраць саюзу Беларусь — Расея. Ці не сьведчыць гэта аб запаленьні мозгу, калі рэакцыя шмат-кроць пераўзыходзіць уяўляемую небясьпеку?

Пан палкоўнік!

Я папярэджваю Вас і Вашых падначаленых аб адказнасьці, якую Вы ўскладаеце на сябе, парушаючы Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і яе законы, **ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**. Я ўпэўнены, што надыйдзе час, калі кожны адкажа за свае дзеяньні.

Пан пракурор вобласьці!

Я прашу абараніць мяне ад перасьледу за палітычныя погляды, які чыніцца да мяне з боку начальніка Цэнтральнага РАУС г. Магілёва п-ка Церахава А. і ягоных падначаленых.

**В.ЦУРПАНАЎ,**
**г. Магілёў, Ямніцкая,**
**д. 89, кв. 29.**

# Магілёўскімі патрыётамі зацікавіліся ў Мінску

Нядаўна ў Магілёве пабываў намеснік старшыні мінскай маладзёвай фракцыі БНФ Яўген Скочка. Ён наведаў мясцовае згуртаванне "Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Еўропу". Перад вяртаннем у сталіцу карэспандэнт ТЫДНЁВІКА меў з Яўгенам гутарку.

**— Яўген, якія ўражанні ў цябе скляліся пра магілёўскіх маладых патрыётаў?**

— Уражанні вельмі добрыя. Тут адчуваецца нацыянальны ўздым сярод пэўнай часткі моладзі. У межах свайго гораду і нават вобласці патрыёты робяць не меншую справу, чым мы ў Мінску. Мне было прыемна сустрэць хлопцаў і дзяўчат, якія ў будучыні будуць кіраваць сваёй дзяржавай, бо цяперашняя ўнутраная акупацыя Бацькаўшчыны працягвацца доўга не зможа. Да таго, не ва ўсіх абласных цэнтрах ёсць падобныя арганізацыі, тым больш актыўна дзеючыя.

**— Не палохаешся, што магілёўскія патрыёты ў хуткім часе могуць стацца "канкурэнтамі" для аўтарытэту сталічных?**

— Ты ведаеш, канкурэнцыя — гэта вельмі добра. Ва ўмовах канкурэнцыі ўсім даводзіцца добра і шмат працаваць. Працаваць над сабой, каб перамагчы. Гэта як у прадпрымальнікаў: не зробіш ты, зробіць хто-небудзь іншы. А выйграе заўсёды агульная справа.

**— А што канкрэтна спадабалася табе ў дзейнасці мясцовай моладзі?**

— Найперш згуртаванасць, дысцыпліна, смеласць і ўзаемадапамога. Зразумела, што спадабаліся акцыі, якія патрыёты наладжваюць. Прыкметна, што і ў нас, і тут моладзь становіцца больш радыкальнай. А сёння без гэтага і немажліва нічога дамагчыся.

**— Твая паездка была толькі азнаямленчай або і па абмену вопытам?**

— Канешне, я і знаёміўся, і вопытам абменьваўся, хаця ўмовы і абставіны ў кожнага горада свае. Тым не менш трэба, каб лепшае з нашай работы было здабыткам усіх.

**— А што ўяўляе сабой маладзёвая фракцыя БНФ?**

— Яна была створана ў 93-м годзе, і спачатку даволі доўгі час уяўляла сабой адносна невялікую групу моладзі, якая займалася тымі ж праблемамі, што і "дарослы" Фронт. Пасля мінскай вясны-96 фракцыя пачала фарміравацца ў агульнабеларускую самастойную маладзёжную арганізацыю. Яна працуе зараз па шмат якіх накірунках. Тут і культура, і мова, і адпачынак, і спорт і, зразумела, палітыка і грамадскія акцыі. Мы ўвесь час пад кантролем і ўціскам улады. Шмат моладзі, трэба прызнаць, сыйшло ад нас, бо ўлады пачалі выключаць актывістаў з навучальных установаў альбо звальняць з працы. Але ў нас засталіся людзі, якія аддадуць усё за сваю Бацькаўшчыну.

**— А якое тваё пажаданне на будучыню магілёўскаму згуртаванню моладзі?**

— Ну, якое пажаданне можа быць?! Каб магілёўцы "пераплюнулі" мінчан (смяецца) і каб разам мы перамаглі гэты дыктатарскі рэжым. Я ўпэўнены, што разам мы абавязкова пераможам. А самае галоўнае пажаданне, як і наша агульная мэта — жыве Беларусь!

Дзяніс НОВІКАЎ.




# Візітная картка горада, альбо Рэха былой славы

***Пашанцавала гэтымі днямі Гербу Магілёва. З нагоды свята горада ён аздобіў сабой многія будынкі і афішы, абвесткі, праграмкі і нават гаспадарчыя фірменныя пакеты... Пры гэтым герб паўсюдна быў адлюстраваны такім, як па гісторыі, хаця нам даводзілася сустракаць у продажы (між іншым, афіцыйным) вымпелы з магілёўскім гербам невядома якіх колераў і без Пагоні на вежы, што ўпрыгожвае гістарычную браму.***

***Сёння, калі сціхлі феерверкі і змоўклі аркестры, мы прапануем прачытаць гэты артыкул, з якога даведаецеся аб тым, калі ўзнік і за што быў нададзены Магілёву ягоны старажытны і, згадзіцеся, асабліва прыгожы герб.***

Першыя гербы з'явіліся ў XI-XII стагоддзях, у часы крыжовых паходаў. Магілёў займеў свой першы герб у 1577 годзе разам з атрыманнем магдэбургскага права. Граматы на магдэбургскае права на Беларусі давалі вялікія князі літоўскія і каралі Рэчы Паспалітай. У адпаведнасці з магдэбургскім правам, гараджане вызваляліся ад феадальных павіннасцяў, маглі займацца рамёствамі, гандлем альбо земляробствам, выбіраць гарадскі орган улады — магістрат, суд, ствараць рамесніцкія аб'яднанні —цахі. У каралеўскай грамаце 1577 года гаварылася, што гораду даецца ў якасці герба "вежа мураваная, высока выведзеная".

Часам гарадскі герб даваўся ў сувязі з пэўнымі падзеямі. Менавіта гэткім чынам, 335 гадоў таму, у 1661 годзе, атрымаў Магілёў свой другі герб, усім вядомы зараз. А на падзеі гэтай спынімся адмыслова.

У ходзе вайны Масковіі з Рэччу Паспалітай, у 1654 годзе расейскія войскі ўзялі горад у аблогу. Як пісаў даследчык Беларусі XIX стагоддзя Адам Кіркор, жыхары Магілёва вырашылі дабраахвотна здацца на міласць маскоўскага цара, патрабуючы толькі падцвярджэння сваіх правоў і прывілеяў, якімі карысталіся раней. Цар Аляксей Міхайлавіч спецыяльнай граматай падцвердзіў магдэбургскае права ды іншыя прывілеі магілёўцаў.

Сем гадоў (1654-1661) заставаўся Магілёў пад уладай маскоўскага цара. Войскі тут размешчаныя, ды іх ваяводы, нягледзячы на тое, што горад ім здаўся без барацьбы, глядзелі на жыхароў як на ворагаў. Салдаты лютавалі, рабавалі, усяляк крыўдзілі магілёўцаў. Ваяводы Гарчакоў ды Палуехтаў усе скаргі пакідалі без увагі. І тады ўзнікла змова з мэтаю знішчэння ўсіх расейскіх салдатаў, што кватаравалі ў Магілёве. Было дамоўлена, у прызначаны тэрмін, 1 лютага 1661 года, выняць крэмні з іхніх стрэльбаў. Змовай кіравалі сябры магістрата на чале з бурмістрам Левановічам.

Раніцою многія магілёўцы сабраліся ў ратушы, хаваючы пад вопраткай зброю: шаблі, бердышы, сякеры, ламы. Салдаты, нічога не падазраючы, разгульвалі па плошчы ды хапалі пірагі ў гандлярак. Тыя ўсчалі лямант. Бурмістр Левановіч выбег з магістрату разам з усімі ягонымі сябрамі і выгукнуў: "Пара! Пара!" У тую ж хвіліну вечавы звон ударыў набат, амаль усе жыхары высыпалі на плошчу і вуліцы. Левановіч першы кінуўся на салдатаў з мячом, пачалася страшэнная сеча.

Салдаты, хоць і бяззбройныя, паспелі згуртавацца і ў рукапашным баі адбіралі зброю ў мяшчанаў і нападалі на іх. Уся плошча залілася крывёю. Тады сябры магістрату накіравалі людзей да турмы, дзе ўтрымліваліся палонныя польскія ваяры, і вызвалілі іх. Барацьба пачалася адчайная. Шмат магілёўцаў было паранена. Увесь гарнізон у колькасці сямі тысячаў чалавек быў знішчаны, за выключэннем аднаго, нейкага Сілы, які застаўся жывым, паабяцаўшы зараз жа запісацца ў мяшчане. Ваяводы Гарчакоў і Палуехтаў, стралецкі галава Чэкін ды некалькі афіцэраў былі ўзятыя ў палон.

Аб гэтым подзвігу паведаміла каралю спецыяльная дэпутацыя з войта Пятра Казановіча, бурмістра Асіра Левановіча, ратманаў Шышкевіча і Фількрэвіча ды пісара Клікунова. Дэпутацыя з'явілася ў Варшаву падчас Сейма і асабіста прадставіла каралю ваяводаў.

Усе дэпутаты тут жа атрымалі шляхецкае званне, афіцэрскія чыны, ганаровыя шаблі за храбрасць. Левановічу ж дабаўлена было да прозвішча слова "пара", г.зн. вокліч, якім ён заклікаў да паўстання. З таго часу ён ды ягоныя нашчадкі пісаліся "Пара-Левановіч".

Магілёву былі дадзеныя правы й прывілеі, якія мела толькі сталіца Вялікага Княства Літоўскага Вільня. Горад атрымаў і згаданы вышэй герб ***"у блакітным полі — тры вежы, у адчыненай браме сярэдняй — рыцар у панцыры з уздзетай шабляй у руцэ. На вежы круглая шыльда з выявай герба "Пагоня".***

**Падрыхтаваў**
**Юрась ПІВУНОЎ.**

# Музыка і высакародства Ул.Співакова

*Перад "акордным" выступленнем "Віртуозаў Масквы" маэстра Уладзімір Співакоў з аркестрам паспеў зрабіць за тры дні шмат добрых спраў. Даў дабрачынны канцэрт на свяце горада, сустрэўся з "неафіцыйнымі" мастакамі і выбраў для дэманстрацыі за мяжой некалькі карцін і эцюдаў, вызначыўся ў выдзяленні 7-мі стыпендый свайго Фонда на падтрымку нашых таленавітых юных музыкаў. Даў працяглую прэс-канферэнцыю.*

*У аўторак перапоўненая зала Палаца хімікаў пад вытанчаныя і артыстычныя ўзмахі дырыжорскай палачкі Маэстра патанула ў музыцы Баха і Шастаковіча. На "біс" вітала публіка нядаўнюю прэм'еру знакамітага аркестра —парадыйна-іранічную (але не без слёз) міні-оперу савецкага генія, да якой ён напісаў і музыку, і словы. Опера носіць назву "Фармалістычны раёк". Д.Шастаковіч, які ўсё жыццё пакутваў ад нападак і цэнзарскага ўціску "за фармалізм", ведаў, што адлюстраваў у сваім творы. Як не можа быць актуальней прагучала гэтая міні-опера (героі яе Сталін, Жданаў і Чэкіст) ў нас, дзе шпарка замацоўваецца цэнзарскае стаўленне да рэпертуараў, жывапісу, маладзёвай музыкі і ўсяго "ідэалагічнага жыцця".*

*З нагоды не першага прыезду Ул.Співакова ў Беларусь у ТЫДНЁВІКА вярцеліся на языку папрокі, бо па фармальных прыкметах такія візіты можна ўспрымаць як маральную падтрымку дыктатарскага рэжыму. Але змест і вынікі співаковай дзейнасці ў Беларусі і Магілёве зусім процілеглыя. Ён прыязжае падтрымаць нас, а не рэжым. Ён дорыць нам надзею, зычыць вытрымкі і свабоды духу. За гэта яму паклон, шчырыя апладысменты і ўсе кветкі горада.*

**ТЫДНЁВІК,**
**з надзеяй на новыя візіты ўладальніка**
**афіцыйнага тытулу "Сусветны пасол музыкі" Ул.Співакова.**

## ПАЭТЫЧНАЯ ГАСЦЁЎНЯ ТЫДНЁВІКА

*Прапаноўваючы нашым чытачам беларускую паэтычную старонку, спадзяемся на тое, што яна прыйдзецца даспадобы аматарам паэзіі і, магчыма, заахвоціць іх на ўласную творчасць. Калі вы аддаеце перавагу менавіта вершаваным думкам і пачуццям на роднай мове, дасылайце, калі ласка, да нас свае вопыты. Рэдакцыя мяркуе раз-пораз друкаваць іх на адмысловай старонцы.*

*Паэтычныя творы падаем у аўтарскім правапісе.*

### Псальм 22

(Пераказ Б.Д.)

Мой Гаспадар мяне пасе —
ў нічым нястачы я ня маю:
на пасту сытную вядзе
ды поіць з чыстага ручаю.

Душы ў трывозе моц дае,
няблуднай сьцежкаю кіруе,
ягона йімя заслонай мне —
ускрозь адважна зь Ім іду я.
І ў лог цьмяны як сьцеж зыйдзе,
бяды ніякай не спаткаю,
бо Ён усьцяж каля мяне
ад крыўды дбайна ўсьцерагае.

Сэрцэ ўпоруч пры стале
на зайздрасьць тым, хто ня прыяе,
на косы мне алей ільле,
наўздоваль коўню налаўняе.
Даброць і ласку ўсьцяж Ён шле,
ўсім кожны дзень шчадруе,
ў сваім Двары прылын дае,
дзе ўжо навек спачын знайду я.



### Месяц

Якуб КОЛАС

Ціха месяц адзінокі
ходзіць ў небе над зямлёю
неразгаданы, далёкі!
Што ты бачыш пад сабою?
Бачыш слёзы ты людскія,
як з расою яны льюцца,
як ў тумане думкі злыя
горкім плачам панясуцца;
Як без волі і без хлеба
працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты скаргу нашу ў неба —
нехай неба ўскалыхнецца.

### Дзве Беларусі

Алесь ЗАЛЕСКІ

Хтосьці гаворыць — ёсць дзве Беларусі:
бел-чырвона-белая і зялёна-бурая.
Але ў нас хлеб-соль кладуць на адным абрусе
і ў весну буслоў чакаюць не з юга, а з выраю.
У радасці і смутку сваёй мовай гаворым
і спрадвеку на сваёй зямлі мы жывём.
Калі вораг нас гоніць нават і за мора —
жменьку роднай зямелькі ў выгнанне бяром.
Праўда, што сёння загараецца мала
у купальскую ноч святочных агнёў.
Але будзе прыбываць з кожным Купалам
тых, хто не цураецца сваіх каранёў.
Сёння неба над Радзімай — чорныя хмары
і камусьці — імгла ля зрэнак варот.
Хай імглу рассеюць аб будучым мары
і надзея — будзе бы вясны зварот.
Цяжкасці, сумненні падуць поту кроплямі
і растопяць лёд — зацурчыць вада.
А спытае хто: "Што беларусы зрабілі?"
"Былі Беларусі дзве, — адкажам, — а цяпер адна".

### Маналог Апанаса Філіповіча

Анатоль СЫС

У гэтай краіне ня маю я дому,
вось воблака — сяду
і ў сьвет палячу
над гэтай гаморай,
над гэтым садомам.
Ні грошай, ні славы — я волі хачу.

У гэтай краіне ня маю я долі,
вось посах і торба, і сотні дарог.
Па долю пайду.
Не вярнуся ніколі,
няхай мяне судзяць хоць людзі,
хоць Бог.

У гэтай краіне ня маю я Бога,
ушчэнт разапселі яго сьвятары:
дзе церні павінны насіць —
носяць рогі.
Які ж тады Бог, калі служкі зьвяры?

У гэтай краіне ня маю я роду,
забыўся народ мой найменьня
дзядоў,
і сьвету ня бачыць далей азяроду,
і дзецям ня дорыць на шчасьце
падкоў.

У гэтай краіне ня маю я песьні,
якая б народнай была і маёй,
якую б сябрына запела
ў Бярэсьці,
а рэха ўзышло за Дняпром,
за Дзьвіной.

У гэтай краіне ня маю я дому,
вось воблака — сяду і
ў сьвет палячу
над гэтай гаморай,
над гэтым садомам.
Ні грошай, ні славы — я волі хачу.
Бо ў гэтай краіне ня маю я волі...

## ЯШЧЭ РАЗ ПРЫМІЦЕ НАША ВІНШАВАННЕ

# Мастацтва не падзяляецца

Зразумела, што гэтая наша рэпліка не зробіць, на жаль, магілёўскі Тэатр Лялек больш наведвальным, чым гэта ёсць сёння. Тады няхай разглядаецца яна як шчырае спачуванне тым, хто не бывае ў гэтым тэатры або зусім не ведае аб ім.

А ў нас ёсць добрая нагода яшчэ раз выказаць артыстам і рэжысёру Алегу Жугждзе ўдзячнасць за творчасць у сувязі з 20-цігоддзем калектыву, якое адзначалася напрыканцы мінулага тыдня. **ТЫДНЁВІК**, зразумела, з задавальненнем прыняў запрашэнне наведаць урачыстасць. І разам з іншымі гледачамі яшчэ раз перажыў прыемныя хвіліны сустрэчы з тэатральным мастацтвам, уся "спецыфіка" якога заключаецца ў тым, што жывуць і адчуваюць на сцэне для нас не толькі акцёры-людзі, але і акцёры-лялькі. І тыя, і іншыя ў гэтым тэатры ўмеюць усё, па словах Хэмінгуэя, "в натуральную величину": спяваць і танчыць, грацыёзна і дакладна рухацца, перадаваць пачуцці словамі, жэстамі і, вы не паверыце, —мімікай. Магчыма, што ў гэтым тэатры не толькі артысты аддаюць свае характары лялькам, але і наадварот. А над усім — музыка, заўсёды дакладна падабраная і дадаючая сцэнічнай дзеі закончаны і аб'ёмны настрой.

Гэта быў рэтра-вечар, на якім тэатр "перагартаў" свае лепшыя работы за апошнія гады — ад "дашкольнага" тыгронка Петрыка да шэкспіраўскага Макбета. Пакольні гэта быў яшчэ і вечар юбілейнага шанавання тэатра, то паміж сцэнічнымі фрагментамі гучалі віншаванні і прывітальныя адрасы, уручаліся кветкі і сувеніры: ад ведамстваў і ўстаноў культуры, ад калегаў з "дарослых" тэатраў і ад "родных" калектываў з іншых гарадоў. І, вядома, ад удзячных гледачоў, якіх тэатр ужо мае права лічыць "на пакаленні".

На жаль, гэтая частка ўрачыстасці праходзіла не без уласцівай нам казёншчыны, якую аднак самі імяніннікі тактоўна і іранічна папраўлялі ў бок непасрэднасці і "хатнясці". І сапраўды, у гэтай зале асабліва недарэчнасцю гучалі як "афіцыйныя" прамовы, так і афіцыйныя назвы большасці нашых устаноў культуры, што амаль усе носяць імёны "правадыроў сусветнага пралетарыяту", якія ў мастацтве, як вядома, прызнавалі толькі ягоны "класавы характар". Аднак небясшкодныя казкі пра "дзедушку Леніна" ўпарта падтрымліваюцца ў нашай краіне, а родная мова, да прыкладу, упарта вынішчаецца са сферы культуры. На жаль, магілёўскія лялькі таксама паддаліся гэтаму настрою і на сцэне апошнім часам усё радзей гучыць беларускае слова.

...Не кожны вечар у тэатры — ўрачысты. Але кожны вечар тут тэатральны. У чытачоў ёсць магчымасць пераканацца ў гэтым самім. І разам з дзецьмі, і паасобку. Гэта нам толькі здаецца, што мастацтва падзяляецца на дзіцячае і дарослае. Яно бывае або мастацтвам, або — не. Гэта пераканаўча падцвярджае сваёй творчай работай магілёўскі Тэатр Лялек.

Г.С.



## МАГІЛЁЎ: ДАЎНІНА І СУЧАСНАСЦЬ

# Як Пётр I прыклаў руку да будучага знішчэння незалежнасці нашай Бацькаўшчыны

**(Працягваем публікацыю гістарычнага агляду І.Пушкіна)**

Пётр I заклаў яшчэ адну міну замаруджанага дзеяння, якая праз колькі год прывяла да падзелу Рэчы Паспалітай і страты незалежнасці нашай Бацькаўшчыны.

З 1685 года Кіеўская праваслаўная мітраполія, якая прызначала епіскапаў на Магілёўскую праваслаўную епархію, перайшла пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхата. Гэта было падцверджана дамоваю 1686 года паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай Абодвух Народаў і ратыфікавана соймам толькі ў 1710 годзе пад моцным ціскам Пятра I. Быў дадзены дазвол Маскоўскаму патрыярхату прызначаць епіскапаў на адзіную праваслаўную епархію Рэчы Паспалітай — Магілёўскую.

Але ж у 1700 годзе памёр патрыярх Андрыян, які не ладзіў з Пятром I. Цар прызначыў "местоблюстителем патриаршего престола" мітрапаліта Стэфана Яворскага. А ў 1721 годзе 25 студзеня адбылася царкоўная рэформа ў Расіі. Паводле царскага маніфесту была ўтворана Духоўная калегія ці Свяцейшы Урадавы Сінод. Ён ураўнаваў членаў Сінода з чыноўнікамі іншых дзяржаўных устаноў. Такім чынам епіскапы Магілёўскія сталі дзяржаўнымі чыноўнікамі Расіі.

Улічваючы, што менавіта Пётр I справакаваў у XVIII ст. дысідэнцкае пытанне пра некатолікаў (К.Маркс пісаў, што пад ціскам Пятра I, дзеля ўмацавання ўлады ягонага саюзніка Аўгуста II, на сейме 1717 года былі абмежаваныя палітычныя правы некаталіцкай шляхты, прычым законы пра пазбаўленне палітычных правоў дысідэнтаў Расія прадыктавала польскаму сейму 1717 года, абапіраючыся на 60000 рускіх і 30000 саксонскіх штыкоў), можна з упэўненасцю казаць, што менавіта гэты цар прыклаў шмат намаганняў да знішчэння незалежнасці Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. І гэта нягледзячы на тое, што ў выніку вайны паміж Швецыяй і Расіяй на тэрыторыі Беларусі загінулі 700000 мясцовых жыхароў — ці кожны трэці — а край наш, як адзначалася на сейме 1712 года, нагадваў край дзікіх пустэчаў, зарослых палёў жалобнага выгляду.


Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030 г. Магілёў,
вул. Першамайская, 6-22.



ТЭЛЕФОНЫ:
31-04-15,
22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 10. Тыраж 2100 асобнікаў. Кошт 2000 руб.